# НАВІНЫ



Акадэміі навук Беларусі

Заснавана ў кастрычніку 1979 года ● № 32 (761) ● 19 жніўня 1994 г. ● Цана 60 руб.

● АКТУАЛЬНАЕ ІНТЭРВ'Ю

РАДЗІМ ГАРЭЦКІ:

## «Я з аптымізмам гляджу на дзеянні прэзідэнта і ўрада ў адносінах да навукі...»

**Некалькі месяцаў прэзідэнцкія выбары былі тэмай нумар адзін у беларускіх сродках масавай інфармацыі (СМІ). Нарэшце, беларускі народ абраў свайго прэзідэнта і размовы пра выбары пачалі сціхаць, саступаючы месца больш надзённым праблемам. Гутарка з віцэ-прэзідэнтам Акадэміі навук Беларусі акадэмікам Р. Г. Гарэцкім падвядзе рысу пад гэтай тэмай і на старонках нашай газеты...**

***— Радзім Гаўрылавіч, вось ужо месяц як Беларусь стала прэзідэнцкай рэспублікай. Што вы можаце сказаць пра ход выбарчай кампаніі і як вы ацэньваеце яе вынікі?***

**— Прэзідэнцкія выбары паказалі поўны недавер народа нашаму былому кіраўніцтву на чале з В. Ф. Кебічам. Як ні націскалі ўрадавыя структуры на выбаршчыкаў, як ні ўхвалялі праз газеты, радыё, тэлебачанне кандыдатуру прэм'ер-міністра, нічога ў іх не атрымалася. Што ж тычыцца перамогі А. Р. Лукашэнкі, то нечаканай яе нельга назваць. Выклікаў здзіўленне такі вялікі адрыў ад астатніх кандыдатаў. Я лічыў, што больш галасоў набярэ Шушкевіч з Пазняком, ды і той жа Кебіч, на якога працавалі ўсе дзяржаўныя органы, СМІ.**

***— У чым вы бачыце прычыну такога поспеху Лукашэнкі і што вы можаце сказаць пра гэтага чалавека, які ўжо месяц з'яўляецца прэзідэнтам нашай краіны?***

**— Аляксандр Рыгоравіч здаецца мне цікавай палітычнай фігурай. Папулярнасць у народзе ён набыў сваёй барацьбой з карупцыяй. Такіх людзей любяць, у народнай свядомасці яны выступаюць як змагары за праўду. Упэўненай перамозе Лукашэнкі садзейнічаў і раскол у дэмакратычным лагеры.**

**Сказаць нешта канкрэтнае пра Лукашэнку як чалавека і прэзідэнта пакуль цяжка — няхай пройдзе час. Але мне спадабалася яго выступленне на Дні незалежнасці, да таго ж гаварыў ён па-беларуску. Я ўвогуле лічу, што ганьба таму народу, чый прэзідэнт не размаўляе на роднай мове. Спадзяюся, што Аляксандр Рыгоравіч загаворыць па-беларуску, першы крок у гэтым ужо зроблены.**

***— Давайце вернемся крыху назад. Калі выбарчы марафон толькі стартаваў, у рэспубліканскім друку было паведамлена пра арганізацыю «За роўныя магчымасці», ініцыятарам стварэння якой былі і вы. Аднак пра яе дзейнасць мала што вядома, таму хацелася б пачуць ад вас, чым займалася гэтая арганізацыя.***

**— Агітацыя за кандыдата ў прэзідэнты пачалася задоўга да самых выбараў. І была яна настолькі аднабаковай, вялася толькі за аднаго кандыдата, што пра роўныя магчымасці для ўсіх прэтэндэнтаў на пасаду прэзідэнта нельга было і думаць. Каб выправіць тое становішча, якое склалася, трэба было нешта рабіць. Узнікла ідэя стварыць арганізацыю, якая б назірала за ходам выбарчай кампаніі. Я падтрымаў яе. Але мне здаецца, арганізацыя не надта паўплывала на самі выбары, хаця пэўную станоўчую ролю адыграла. Узнятая намі праблема, урэшце, знайшла сваё вырашэнне. Час для выступленняў кандыдатаў па радыё і тэлебачанню рэгламентавалі, быў створаны Назіральны савет. Можна сказаць, умовы для кандыдатаў сталі больш-менш роўнымі, прынамсі, на апошнім этапе прэзідэнцкага марафону. І таму наша арганізацыя не стала актывізаваць свае дзеянні ў гэтым напрамку.**

***— Для многіх было нечаканым, што віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук Р. Г. Гарэцкі ўвайшоў у каманду кандыдата ў прэзідэнты З. С. Пазняка. Чым тлумачыцца ваш выбар, які, дарэчы, мог адмоўна адбіцца на вашым службовым становішчы, калі б перамог былы прэм'ер-міністр В. Ф. Кебіч?***

**— На мой погляд, з усіх кандыдатаў у прэзідэнты якраз у Зянона Станіслававіча была найбольш дасканалая і сур'ёзная праграма. Як з эканамічнага боку, так і з боку захавання незалежнасці нашай дзяржавы. І таму, калі яны звярнуліся да мяне за кансультацыяй, я ўзяўся ім дапамагчы, падтрымаць іх. Але я выступіў не як віцэ-прэзідэнт акадэміі, а як грамадзянін Беларусі, які шчыра падтрымлівае нацыянальную беларускую ідэю. А што магло быць потым? Навошта зараз пра гэта гаварыць...**

***— Аднак вашы кантакты з апазіцыяй адным выбарамі не абмяжаваліся. Наколькі мне вядома, зараз вы ўваходзіце ў ценявы кабінет міністраў ад БНФ. Калі гэта праўда, то якая роля ў ім належыць вам?***

**— Такая інфармацыя прайшла ў друку, паведамлялася нават, што я ўзначальваю Міністэрства рэсурсаў. Тут ёсць пэўнае перабольшванне. У ценявым кабінеце я выступаю кансультантам па пытаннях, у якіх лічу сябе спецыялістам. У першую чаргу гэта рэсурсы, геалогія, рацыянальнае выкарыстанне прыродных выкапняў, экалогія.**

***— Завяршыліся прэзідэнцкія выбары, але наперадзе нас чакаюць парламенцкія. Які прагноз вы маглі б зрабіць на іх, улічваючы нашу сённяшнюю рэчаіснасць?***

**— Я мяркую, што калі выбары пройдуць у самы бліжэйшы час, то ў парламент пройдзе шмат прыхільнікаў цяперашняга прэзідэнта, якія зараз арганізоўваюць свой рух. Іншых вынікаў можна будзе чакаць, калі выбары адбудуцца ўжо ў наступным годзе. І вось чаму. Паляпшэння жыцця ў бліжэйшы год не будзе, яно, хутчэй за ўсё, яшчэ пагоршыцца. Гэта прывядзе да таго, што людзі, прагаласаваўшыя за Лукашэнку і не адчуўшыя добрых перамен, будуць паступова адыходзіць ад яго. І на выбарах у парламент многія з іх аддадуць свае галасы апазіцыі. Думаю, што для дэмакратычных сіл, калі яны аб'ядноўваюцца, выбары пройдуць паспяхова.**

***— Пытанне, якое не мае прамога дачынення да тэмы нашай размовы, але, упэўнены, цікавіць усіх супрацоўнікаў акадэміі. Як ставяцца да праблем АНБ прэзідэнт і новы ўрад?***

**— Нашы першыя кантакты паказалі: і прэзідэнт, і яго каманда да праблем навукі ў цэлым, і Акадэміі навук, у прыватнасці, ставяцца з разуменнем. Яны ведаюць, што гэта інтэлектуальная эліта, без якой нельга развіваць нашу дзяржаву. Цяпер мы рыхтуем прапановы ўраду, скіраваныя на падтрымку навукі. У іх плануецца вызначыць працэнт расходнай часткі бюджэту, які пойдзе на навуку, падаткавыя льготы, меры па сацыяльнай падтрымцы вучоных і шмат іншага. Нашы прапановы добра прымаюцца. Таму я з аптымізмам гляджу на дзеянні прэзідэнта і ўрада ў адносінах да навукі, у тым ліку і фундаментальнай.**

**Гутарку вёў Аляксандр ЮРЫН.**

● У ІНСТЫТУЦЕ ФІЗІКА-АРГАНІЧНАЙ ХІМІІ

## ДАГАВОРЫ ЎСТУПАЮЦЬ У СІЛУ

Навуковае супрацоўніцтва доктара хімічных навук, прафесара, кіраўніка аддзела кінетыкі і рэакцыйнай здольнасці ІФАХ Уладзіміра Янокавіча Агабекава з Нацыянальным Аўтаномным універсітэтам Мексікі пачалося ў канцы 1991 года ў Венгрыі на канферэнцыі са знаёмства з мексіканскімі вучонымі, якія вядуць даследаванні па блізкай тэматыцы. (Трэба сказаць, што зараз гэта тыпічная схема наладжвання доўгатэрміновых кантактаў, а часта — і кантрактаў).

У красавіку гэтага года па запрашэнню Нацыянальнага Аўтаномнага універсітэта Мексікі У. Я. Агабекаў паехаў туды ў навуковую камандзіроўку для чытання лекцый, вядзення навуковай работы і заняткаў з аспірантамі.

За два з паловай месяцы давялося бліжэй пазнаёміцца з краінай «проста Марыі», плённа папрацаваць з мексіканскімі калегамі.

— Успаміны самыя лепшыя,— расказаў Уладзімір Янокавіч.— Магу сказаць, што здзіўляюць маштабы гэтай краіны.

Універсітэт Мексікі з'яўляецца адным са старэйшых на амерыканскім кантыненце і нават у свеце. У ім вучыцца і працуе каля 300 тысяч чалавек. У складзе універсітэта знаходзяцца не толькі вучэбныя установы рознага профілю, але і навукова-даследчыя падраздзяленні, дзе вядуцца фундаментальныя і прыкладныя даследаванні. Акрамя таго, гэтыя даследчыя ўстановы вельмі цесна супрацоўнічаюць са студэнтамі і аспірантамі, прымаючы актыўны ўдзел у вучэбным працэсе. Студэнты працуюць у лабараторыях, аспіранты праходзяць стажыроўкі і працуюць з навуковымі кіраўнікамі. Вучоны з Мінска чытаў лекцыі перад навуковымі супрацоўнікамі з двух НДІ і адначасова стаў навуковым сакіраўніком падрыхтоўкі «пі-эйч-дзі» работы супрацоўніцы Інстытута ядзерных даследаванняў Пілар Веласкес. Дарэчы, гэта толькі адзін з прыкладаў таго, як універсітэт, а фактычна НДУ у яго складзе вельмі актыўна наладжваюць супрацоўніцтва з вучонымі ўсяго свету. Па дагаворах у разнастайных універсітэцкіх НДУ працуюць каля 120 чалавек, накіраваных з мэтай навуковага супрацоўніцтва з рэспублік СНД. Тэрмін іх камандзіровак працягваецца ад месяца да некалькіх гадоў.

Праца нашых вучоных у лабараторыях НДУ вельмі спрыяе развіццю навукі і ідзе на карысць не толькі дружалюбнай краіне, але і Бацькаўшчыне. Лабараторыі універсітэта аснашчаны самым сучасным абсталяваннем, матэрыяламі, камп'ютэрамі. Ёсць самая неабходная, самая свежая навуковая літаратура. Спалучэнне гэтага з нашымі «мазгамі» дае адметныя вынікі.

Мексіканскі універсітэт — гэта фактычна горад у адным з самых вялікіх гарадоў свету — Мехіка. Універсітэцкі гарадок — цэлы комплекс культурных, спартыўных, займальных і г. д. устаноў. У яго склад уваходзяць вучэбныя, адміністратыўныя будынкі, будынкі навукова-даследчых устаноў, кінатэатры, стадыёны, кафэ, бары. Універсітэт выдае 48-палосны штотыднёвік, багата ілюстраваны і вельмі апературны.

У склад універсітэта ўваходзяць Інстытут ядзерных даследаванняў і Інстытут даследаванняў матэрыялаў — гэта канкрэтныя адрасы навуковага супрацоўніцтва доктара У. Я. Агабекава.

Навуковая камандзіроўка прайшла вельмі плённа. Зараз паміж аддзелам кінетыкі і рэакцыйнай здольнасці Інстытута фізіка-арганічнай хіміі АНБ і кожнай з гэтых устаноў падпісаны дагаворы аб сумесных навуковых даследаваннях тэрмінам на тры гады.

Тэма дагавора з Інстытутам ядзерных даследаванняў — «Развіццё фізіка-хімічных асноў стварэння анізатропных мона- і мультыслаёў арганічных структур», з Інстытутам даследаванняў матэрыялаў — «Мадыфікацыі новых арганічных тонкаплёначных матэрыялаў для нелінейнай оптыкі».

Дагаворы прадугледжваюць сумесныя даследаванні ў галіне агульных навуковых інтарэсаў, абмен візітамі вучоных для выканання сумесных работ, абмен навукова-тэхнічнай інфармацыяй, узорамі і вынікамі сумесных даследаванняў, публікацыі сумесных работ.

Дагаворы ўжо ўступаюць у сілу.

## Для мікраэлектронікі

**Заключана пагадненне аб выкананні заказной навукова-даследчай работы паміж Інстытутам фізіка-арганічнай хіміі АНБ і Інстытутам тэхналогіі электронных матэрыялаў (ІТМЕ) з Рэспублікі Польшча.**

Прадметам пагаднення з'яўляецца распрацоўка, выраб і пастаўка дзвюх доследных установак глыбокай ачысткі газаў (азоту і вадароду) з наяўнасцю ў гэтых газах тэхнічна шкодных прымесей, кіслароду і вільгаці на ўзроўні 0,1—0,2 частак на мільён.

Апрача таго, рыхтуецца сумесны патэнт на спосаб ачысткі газаў і сарбент для яго ажыццяўлення. Пагадненне прадугледжвае, што разлікі з польскім бокам будуць праводзіцца на бартэрнай аснове вылічальнай тэхнікай, якая неабходна ІФАХ для арганізацыі работ па экалогіі, а менавіта для наладжвання масс-спектраметрычнага аналізу атмасферных забруджванняў.

Як паведаміў нашаму карэспандэнту непасрэдны ўдзельнік распрацоўкі навуковы кіраўнік тэматычнай групы сінтэзу керметаў пры дырэкцыі ІФАХ Уладзімір Мікалаевіч Ананьін, Варшаўскі Інстытут тэхналогіі электронных матэрыялаў — буйнейшы ў Польшчы навуковы цэнтр з ДВ. Супрацоўнікі ІТМЕ займаюцца распрацоўкай тэхналогій і атрыманнем новых матэрыялаў для мікраэлектронікі.

Група сінтэзу керметаў ІФАХ, навукоўцы якой і распрацавалі гэту тэхналогію глыбокай ачысткі газаў, супрацоўнічае з аддзелам монакрысталічных паўправадніковых матэрыялаў і лабараторыяй МОС-гідрыднай эпітаксіі ІТМЕ. Усе методыкі па глыбокай ачыстцы газаў, апрабаваныя партнёрамі ў Польшчы, могуць выкарыстоўвацца таксама на прадпрыемствах, установах Беларусі ў галіне мікраэлектронікі. Напрыклад, на ВА «Інтэграл», НВА «Сігнал», ВА «Гарызонт», у Мінскім НДІ радыяматэрыялаў.

● КНІЖНЫЯ НАВІНКІ

Выдавецтва «Навука і тэхніка» выпусціла ў свет наступныя выданні.

«Природа Беларуси, указатель литературы за 1990 год». Бібліяграфічны даведнік падрыхтаваны аддзелам навуковай бібліяграфіі Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Я. Коласа. У кнізе змешчана ўся літаратура па

# Толькі ў «Акадэмкнізе»

дадзенай праблеме за адзначаны час. Выданне ўключае матэрыялы як па агульных пытаннях прыродакарыстання і аховы прыроды, геалагічнай будове і карысным выкапням, раслінному і жывёльнаму свету, так і па экалагічных пытаннях. Апошнім прысвечаны спецыяльныя раздзелы — «Экалагічная абстаноўка» і «Наступствы аварыі на ЧАЭС і меры па іх ліквідацыі». Усяго ў бібліяграфічным даведніку налічваецца 2824 назвы.

«Нарысы па гісторыі беларуска-рускіх літаратурных сувязей». Кніга падрыхтавана Інстытутам літаратуры імя Я. Купалы АНБ пад рэдакцыяй В. А. Каваленкі і І. Я. Навуменкі. Гэта ўжо другая кніга гэтай серыі (усяго іх будзе чатыры), у ёй ахоплены перыяд пачатку XX стагоддзя і аналізуецца творчасць Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Змітрака Бядулі і іншых беларускіх пісьменнікаў у кантэксце рускай класікі, паказваецца ўплыў рускай літаратуры на беларускую. Сярод аўтараў зборніка — В. Ю. Бароўка, М. І. Мушынскі, Э. С. Турэвіч, Ц. Б. Ліякумовіч, М. А. Тычына і іншыя.

Названыя кнігі можна набыць у магазіне «Акадэмкніга». Спяшайцеся!

А. БІЦАРУК.

# У каханні мы ўсе крыху тэлепаты

● *Клуб «Гіпотэза»*

Прырода кахання дагэтуль застаецца загадкай. Адны гавораць: добра, што існуе такое велізарнае і невытлумачальнае таемства, бо калі мы гэта пачуццё растлумачым дасканала, то знікне ўся прывабнасць любоўных радасцей. Іншыя ж, адхіляючы такі падыход, сцвярджаюць, што каханне настолькі ўзвышанае і велізарнае пачуццё, што аніякія даследаванні не змогуць вычарпаць усю мнагастайнасць яго бакоў, і каханне заўсёды застанецца агромістай загадкай. Другая пазіцыя нам здаецца больш паслядоўнай і лагічнай.

Паспрабуем і мы ўнесці лепту ў тлумачэнне гэтай загадкі чалавечай душы. Дапусцім, што чалавек, які дастаткова моцна закахаўся у нешта ці ў некага, набывае экстрасэнсорнае ўзмацненне сваіх пачуццяў, здольнасцей і інтуіцыі.

Успомнім, як абвастраецца слых у маці, калі яна прыслухоўваецца да свайго дзіцяці, што знаходзіцца ў суседнім пакоі. Асабліва моцна абвастраюцца слых, бачанне і абаняне ў цяжарных жанчын. Гэта «прыдумана» прыродай дзеля таго, каб захаваць плод ад усяляких нечаканасцей. Маці ж трэба пільна сачыць, каб нічым не пашкодзіць жыццю, што пачынаецца. І чым больш пажаданае з'яўленне дзіцяці на свет, тым больш абвострана яна адчувае.

Вядомы выпадкі тэлепатычнай сувязі закаханых адзін з адным. Нездарма закаханыя разумеюць адзін аднаго з паўслова. А чым больш муж і жонка жывуць разам у каханні, тым больш яны становяцца падобнымі адзін да аднаго не толькі характарам, але і знешне. А некаторыя ж экстрасенсы здольныя змяняць свой вонкавы выгляд высілкам волі. Значыць, і змена выгляду мужа і жонкі ёсць вынік экстрасенсорнага ўзмацнення пачуццяў абодвух.

Нядаўна па тэлебачанні дэманстраваўся фільм аб прыватным агенцтве, якое расследуе шлюбныя здрады. І міжволі падумалася: ёсць жа вельмі надзейны спосаб вызначэння не толькі факта здрады, але і яе працягласці. Калі муж ці жонка дастаткова ўважлівыя, яны без цяжкасці выявяць змену выгляду і характару сваёй паловы. Асабліва калі пачуццё кахання ў іх дастаткова моцнае.

Не выключана, што каханне — гэта экстрэмальны стан душы са знакам «плюс». У гэтым стане чалавек крыху тэлепат, крыху празорца і крыху прарок. А велічыня гэтага «крыху» залежыць ад моцы кахання.

Калі ўсё сказанае тут слушна, то чым больш і мацней мы будзем кахаць, тым больш у нас будзе геніяў, тым больш мы будзем уважлівымі і ўспрымальнымі і тым лягчэй вырашым нашы найскладанейшыя праблемы.

Леў ПАЛЫКОЎСКІ,
г. Віцебск.

Споўнілася 60 гадоў з дня нараджэння вядомага беларускага вучонага-фізіка, буйнога спецыяліста ў галіне фізікі плазмы, оптыкі і лазернай фізікі, загадчыка лабараторыі радыяцыйнай плазмадынамікі Інстытута малекулярнай і атамнай фізікі АНБ, двойчы лаўрэата (1974 і 1992 гг.) Дзяржаўных прэмій рэспублікі, доктара фізіка-матэматычных навук прафесара Леаніда Якаўлевіча МІНЬКО. Прапануем размову з ім нашага карэспандэнта.

# «Цяпер аб гэтым можна сказаць»



**— Леанід Якаўлевіч, яшчэ некалькі гадоў назад пытацца ў вас аб тым, чым вы займаецеся, было б нясціпла. Зараз, мне здаецца, вы маглі б ужо акінуць вокам пройдзены ў навуцы шлях. З чаго ён пачынаўся?**

— Так, як гаворыцца, «цяпер аб гэтым можна сказаць». Мне ў жыцці вельмі пашанцавала, што я скончыў БДУ менавіта ў 1960 г., калі акадэмік М. А. Ельяшэвіч толькі-толькі пачынаў новы, перспектыўны для рэспублікі кірунак даследаванняў — высокатэмпературную оптыку. М. А. Барысевіч, тагачасны намеснік дырэктара Інстытута фізікі АН БССР, куды я быў накіраваны па размеркаванню, прапанаваў мне месца малодшага навуковага супрацоўніка ў лабараторыі «Ікс». З таго часу ўсё маё жыццё непарыўна звязана з ІФАНам, а з 1992 г. і з яго «даччыным» Інстытутам малекулярнай і атамнай фізікі — ІМАФам.

Не адразу я ўпаўне зразумеў, чым мне прыйдзецца займацца ў лабараторыі «Ікс». Аказалася — даследаваннямі ў сувязі са стварэннем ракетна-касмічнай тэхнікі, больш дакладна, паводзінамі цеплаахоўных пакрыццяў пры высокіх тэмпературах. Трэба было разгортваць лабараторнае мадэляванне ўваходжання касмічных аб'ектаў у шчыльныя слаі атмасферы, узнікненне ў іх плазмавай абалонкі, распрацоўваць метады дыягностыкі плазмы ў мадэльных і натурных умовах.

Так узнікла група, а потым і лабараторыя высокатэмпературнай оптыкі (ЛВТО). Яе першым загадчыкам стаў акадэмік М. А. Ельяшэвіч. Спачатку мы вывучалі аптычныя ўласцівасці розных рэчываў пры высокіх тэмпературах, якія аднак, «з пункту гледжання плазмы», лічацца нізкімі.

Мне пашанцавала яшчэ і ў тым, што я трапіў у матэнакіраваны, адданы навуцы калектыў, у якім былі Л. І. Кісялеўскі, Л. І. Грачыхін, С. І. Анісімаў, У. Я. Плюта. Па тэматыцы лабараторыі працавалі таксама А. С. Рубанаў. І мы, маладзейшыя супрацоўнікі — І. Дз. Шымановіч, Г. С. Раманаў, Ю. В. Хадыка, Дз. К. Скутаў і я — натуральна, увайшлі ў яго.

Старэйшыя таварышы ўсе некуды таямніча знікалі. М. А. Ельяшэвіч амаль увесь час быў у камандзіроўках. Усе ведалі крылатую фразу «ЭмА» (так мы яго любоўна называлі): «А вось і я прыехаў!»

З першых дзён свайго існавання ЛВТО пачала актыўна ствараць уласную эксперментальную базу, фарміраваць тэматыку, устанаўліваць сувязі з адпаведнымі навуковымі цэнтрамі. Ролю «ЭмА» ва ўсім гэтым нельга пераацаніць.

Актуальнасць тэматыкі, гаспадарчыя дагаворы спрыялі паскоранаму развіццю лабараторыі, хуткаму росту навуковай кваліфікацыі кадраў. Дзякуючы ўсяму гэтаму, ужо ў 1964-м ЛВТО атрымала свой уласны корпус.

Буйной падзеяй у жыцці лабараторыі стала прысуджэнне ў 1966 г. М. А. Ельяшэвічу Ленінскай прэміі за выдатныя працы ў галіне высокатэмпературнай оптыкі, пачатыя ім яшчэ ў 50-я гады разам з маскоўскімі фізікамі і хімікамі з АН СССР.

Да 1969 г. у ІФАН на базе ЛВТО існуе ўжо дзве лабараторыі плазмавага профілю: ЛНП (нераўнаважных працэсаў) і ЛСНТП (спектраскапіі нізкатэмпературнай плазмы), і яшчэ таксама «плазмавая» лабараторыя тэарэтычнай фізікі ў Інстытуце фізічных праблем пры БДУ. Пазней да іх далучыліся і лабараторыя оптыкі нераўнаважных асяроддзяў (ЛОНА). Поспехі плазменшчыкаў ІФАНа былі заўважаны. У 1974 г. за распрацоўку актыўных і пасіўных метадаў дыягностыкі плазмавай абалонкі ў лабараторных і натурных умовах Л. І. Кісялеўскі, В. С. Буракоў, Л. Я. Мінько, В. М. Снапко і У. Дз. Шымановіч атрымалі Дзяржаўную прэмію БССР.

**— Як склаўся лёс лабараторый, аб'яднаных праблемным саветам «Фізіка плазмы» ІМАФ, якім вы ўзначальваеце?**

— Пад яго эгідай знаходзяцца лабараторыя лазернай дыягностыкі плазмы (ЛЛДП, загадчык акадэмік В. С. Буракоў), радыяцыйнай плазмадынамікі (ЛРПД, дзе загадчыкам я), фізікі плазмавых працэсаў (ЛФПП, загадчык прафесар У. Дз. Шымановіч), атамнага спектральнага аналізу (ЛАСА, загадчык прафесар А. А. Янкоўскі), група ЗВЧ-даследаванняў (кіраўнік доктар фізіка-матэматычных навук В. І. Архіпенка). У ІФАН таксама засталіся лабараторыі, якія захоўваюць пераемную сувязь з былой ЛВТО. Адна з іх так і называецца (загадчык доктар фізіка-матэматычных навук В. М. Снапко). Ёсць лабараторыя оптыкі нераўнаважных асяроддзяў (ЛОНА, загадчык прафесар Ю. В. Хадыка), дыстанцыйнай спектраскапіі (ЛДС, загадчык кандыдат фізіка-матэматычных навук У. Я. Плюта). Апрача таго, у ІЦМА існуе лабараторыя радыяцыйнай газавай дынамікі, якую ўзначальвае намеснік дырэктара інстытута, былы супрацоўнік ЛВТО—ЛНП Г. С. Раманаў.

**— Раскажыце, калі ласка, больш падрабязна пра сваю лабараторыю.**

— Лабараторыя радыяцыйнай плазмадынамікі вядзе свой пачатак з ЛВТО і ЛНП. Як ЛРПД, яна створана ў канцы 1991 г. у Інстытуце фізікі імя Б. І. Сцяпанава (з 1992 г. — у складзе ІМАФ).

Тэматыка лабараторыі ахоплівае кола пытанняў па дынаміцы плазмавых патокаў, што ствараюцца імпульснымі крыніцамі на аснове аптычных і электрычных разрадаў. Гэта дынаміка лазерных прыпаверхневых плазмавых утварэнняў і дынаміка кампрэсіённых плазмавых патокаў у камбінаваных плазмава-дынамічных сістэмах. Мы развіваем таксама спосабы дыягностыкі хуткадзейных плазмадынамічных працэсаў і адпаведную дыягнастычную апаратуру. Канешне, вядзём інтэнсіўны пошук прымяненняў нашых даследаванняў у прамысловасці Беларусі. У прыватнасці, ствараецца доследны ўзор лазернай сістэмы для рэзкі і праплавлення аўтулін у матрыцах. Гэта ідзе па навукова-тэхнічнай праграме «Белоптыка».

У нашых бліжэйшых планах — з годнасцю прадставіць лабараторыю ў вераснёўскіх канферэнцыях: міжнароднай мінскай, па фізіцы і тэхніцы плазмы, III Міждзяржаўным сімпозіуме па радыяцыйнай плазмадынаміцы ў Маскве. Там мне трэба будзе зрабіць даклады «па запрашэнню». Яшчэ ў маіх бліжэйшых планах — выканаць абавязацельствы па напісанню манаграфіі «Лазерная плазмадынаміка».

**— Леанід Якаўлевіч, наколькі мне вядома, вы — адзіны ў рэспубліцы чалавек, які мае дзве Дзяржаўныя прэміі Беларусі. Цікава б даведацца, за якія даследаванні была атрымана другая з іх?**

— Разам са мной гэту прэмію атрымалі мае вучні В. К. Ганчароў і А. Н. Чумакоў. Гэта быў цыкл работ, над якім мы працавалі 20 гадоў. Пачаліся яны яшчэ ў даследаваннях нераўнаважных працэсаў пад агульным кіраўніцтвам акадэміка М. А. Ельяшэвіча і працягваліся ў ІФАН у ЛНП, калі я стаў загадчыкам, а таксама ў Інстытуце прыкладных фізічных праблем пад кіраўніцтвам Г. С. Раманава (з 1973 г.) і В. К. Ганчарова (з 1979 г.).

Мы паставілі сабе пытанні: які фізічны стан прадуктаў разбурэння мішэні, якая іх роля ў працэсах лазернага ўздзеяння, як змяняецца іх колькасны і фазавы састаў, якая роля працэсаў пераносу ўласнага цеплавога выпрамянення плазмавых утварэнняў і інш. Для адказу на гэтыя пытанні трэба было рэалізаваць эксперыменты з выкарыстаннем імпульсаў выпрамянення з кантралюемымі параметрамі, а дыягнастычныя сродкі — з рэгістрацыяй патрэбных прасторава-часовых маштабаў з'яў і іх параметраў, а таксама стварыць тэарэтычныя мадэлі і разліковыя методыкі, якія б дазволілі змадэляваць увесь комплекс рэальных працэсаў.

Паслядоўнае выкананне намечанай праграмы як у тэарэтычнай, так і ў эксперыментальнай частцы дазволіла атрымаць дастаткова поўныя адказы на пастаўленыя пытанні і гаварыць аб стварэнні новага навуковага напрамку ў фізіцы ўзаемадзеяння аптычнага выпрамянення з рэчывам — радыяцыйнай лазернай плазмадынамікі.

**— Мне застаецца толькі павіншаваць вас з юбілеем і пажадаць новых далейшых поспехаў у навуковай і навукова-арганізацыйнай дзейнасці. Вялікі дзякуй вам за размову!**

Інтэрв'ю вёў
Уладзімір ТРАЦЦЯКОЎ.

**НА ЗДЫМКУ: у эксперыментальнай зале лабараторыі нераўнаважных працэсаў Інстытута фізікі. На пярэднім плане акадэмік М. А. Ельяшэвіч (злева) і загадчык лабараторыі Л. Я. Мінько.**

## Сустрэча з прыродай



◆ Раніца ў бярозавым гаі.

Фота В. Пугача.



◆ На вячэрняй зорцы.

Фота Б. Іванова.

## У ІНСТЫТУЦЕ ЛЕСУ

# ХВАРОБА АКАЗАЛАСЯ НАМНОГА СУР'ЁЗНЕЙ

*Сенсацыйную заяву зрабілі на экалагічным семінары вучоныя Інстытута лесу Акадэміі навук Беларусі. Яны абверглі ранейшыя даследаванні калег з МАГАТЭ, іншых радыелагічных навуковых установ далёкага і блізкага замежжа ў галіне лясной гаспадаркі, якая была падвергнута радыеактыўнаму забруджванню ў выніку чарнобыльскай катастрофы. Па іх меркаванню, экалагічная абстаноўка ў лясах Беларусі, Украіны і Расіі, пасыпаных ядзерным попелам, намнога складаней і небяспечней той, якую прагназіруюць замежныя калегі.*

*— Узяць на сябе такую высокую адказнасць у галіне радыелагічнай навукі,— сказаў карэспандэнту БЕЛІНФАРМа дырэктар інстытута член-карэспандэнт Акадэміі навук Беларусі Віктар Іпацьеў,— мы дазволілі сабе пасля васьмігадовых даследаванняў практычна кожнага лясного раёна. Нашы вучоныя жывуць непасрэдна ў эпіцэнтры ядзернага ачагу і карыстаюцца толькі сваімі данымі. Зараз у інстытуце назапашаны багаты матэрыял і мы гатовы прадставіць даныя, на падставе якіх рабілі гэту заяву, любой самай аўтарытэтнай камісіі. Свет павінен ведаць, што нашы лясы хворыя значна больш цяжэйшай хваробай, чым гэта здавалася раней.*

### ВЫНАЙСЦІ... ВЕЛАСІПЕД?

Веласіпед працягваюць удасканальваць. Не так даўно англійскія канструктары прапанавалі шыны веласіпеда рабіць... металічнымі. Пры гэтым спіцы ў коле выкананы чарадуючыміся — жорсткімі і эластычнымі, што дазваляе змякчыць трасучку. Перавага такіх шын перад гумавымі не толькі ў тым, што яны практычна вечныя і іх не трэба перыядычна надзімаць, але і ў захаванні экалагічнай чысціні акаляючага асяроддзя. Старыя ці парваныя гумавыя шыны часта выкідаюць альбо спальваюць. Звычайны ж металічны веласіпедны ланцуг англічане прапанавалі замяніць зубчатым рамянём, зробленым з трывалага, лёгкага палімернага матэрыялу. Гэты ланцуг бясшумны, не ржавее, на патрабуе змазкі. Такія веласіпеды ўжо актыўна выпускаюцца заходняй прамысловасцю.

### ПРАРОСШАЯ ПШАНІЦА — ПАНАЦЭЯ?

*Ці праўда, што прарошчае пшанічнае зерне спрыяе амаладжэнню арганізма?*

Збожжа пшаніцы, як і любой іншай расліны, утрымлівае комплекс біялагічна актыўных рэчываў, якія неабходны для развіцця парасткаў. Гэта вітаміны, пераважна E, C і групы B. Аднак у зярнятах пшаніцы гэтых вітамінаў мала, і розлічваць на іх лячэбнае ўздзеянне не даводзіцца. Намнога большай актыўнасцю валодаюць аптэчныя вітамінныя прэпараты.

Ёсць у прарастаючых зярнятах пшаніцы аўксіны — рэчывы, якія служаць стымулятарамі росту. Іх уласцівасці добра вывучаны, даказана, што яны актывізуюць рост толькі раслінных клетак. Уплываць жа на рост і развіццё тканак чалавечага арганізма аўксіны не могуць.

У прарастаючых зярнятах пшаніцы ўтрымліваюцца і рэчывы бялковавугляроднай прыроды — аглюцыніны. Іх дэталёвае вывучэнне не выявіла якоганебудзь цалебнага, а тым больш амаладжваючага ўздзеяння на арганізм чалавека.

Аб «цудадзейных» уласцівасцях прарошчай пшаніцы не сустракаецца ўпамінанняў ні ў перыядычнай, ні ў рэфератыўнай медыцынскай літаратуры. Да «сенсацый» падобнага роду трэба адносіцца вельмі асцярожна, каб не нанесці шкоды здароўю.

### СТРЫЖЫ ПАЗНОГЦІ Ў ПАПЕРКУ

Здаўна ў народзе казалі: не выкідай дзе папала свае валасы — падбярэ птушка, занясе ў гняздо — галоўка будзе балець. Магчыма, глупства. Але апошнія даследаванні вучоных паказалі, што паміж фатаграфіяй чалавека і самім чалавекам існуе нябачная энергетычная сувязь, рэгіструемая прыборамі. Ёсць такая сувязь і са сваімі выкінутымі валасамі і пазногцямі і нават выдзяленнямі — слінай, потам і інш. Вядома і іншае, што птушкі ўюць свае гнёзды на перасячэнні біяпатагенных месцаў, дзе чалавеку небяспечна знаходзіцца. Зацягне туды вашы валасы птушка, пабудуе гняздо. І па інфармацыйна-энергетычнаму каналу патагенная зона будзе «абстрэльваць» ваш арганізм. Забаліць галава і многае іншае. Самае простае выйсце — альбо загарнуць валасы і пазногці ў паперку і спаліць, альбо выкінуць. Нездарма ж, жадаючы зрабіць чалавеку шкоду, чаруюць на яго сліну, валасы, мачу. Можна, канешне, і рассмяяцца, але лепш не рызыкаваць.

### НОВЫЯ ПАРАЛЕЛЬНЫЯ КАМП'ЮТЭРЫ

Буйнейшая ў Японіі фірма па выпуску сродкаў вылічальнай тэхнікі «Фудзіцу» вядзе распрацоўку двух новых камп'ютэраў з павялічанай колькасцю мікрапрацэсараў.

Адзін з гэтых паралельных камп'ютэраў, які павінен паступіць у продаж праз два гады, прызначаецца для выканання спецыяльных праграм. Ён будзе пабудаваны на адноснатанных працэсарах з нізкім энергаспажываннем. Другі будзе выкарыстоўвацца ў якасці ЗУ для захоўвання баз даных камп'ютэрных сетак і будавацца на вялікай колькасці працэсараў з вялікім хуткадзеяннем і скарочаным наборам каманд.

### ЗЯЛЁНАЯ АХОВА АД КАРЫЕСА

Японская прымаўка сцвярджае: «Зялёны чай ачышчае рот». У яе справядлівасці нядаўна змаглі пераканацца японскія біяхімікі, вызначыўшыя, што настой зялёнага чаю сапраўды тармозіць рост і размнажэнне мікраарганізмаў, раз'ядаючых зубную эмаль. Даследчыкі вынайшлі, што ахоўную ролю адыгрываюць поліфенольныя злучэнні, асабліва адно з іх — галакатэхін. Калі пасля кожнага прыёма ежы выпіваць шклянку зялёнага чаю, гэтага дастаткова, каб захаваць зубы ад разбурэння.

### ГІПОТЭЗА АТРЫМЛІВАЕ ПАЦВЯРДЖЭННЕ

Меркаванне, што наш Сусвет перажывае адзін з бясконцага мноства сваіх жыццёвых цыклаў, атрымала пацвярджэнне ў выглядзе вынікаў машыннага мадэлявання стану Сусвету у ходзе больш тысячы цыклаў расшырэння і калапса. Група вучоных (Саутгемптонскі універсітэт, Вялікабрытанія), якая правяла гэтае мадэляванне, прыйшла да высновы аб існаванні характэрнай для нашага Сусвету тэндэнцыі ў ходзе гэтых цыклаў усё больш набліжацца да плоскага стану.

Даныя даследаванняў НАСА, праведзеных з дапамогай спадарожніка САВЕ, пацвярджаюць гэтае ўяўленне аб плоскім Сусвеце, а таксама стандартную мадэль Сусвету, які пашыраецца.

### ЗНАЧЫЦЬ, ТАК ПРЫЗНАЧАНА ЛЁСАМ

Рука боскай волі дапамагла пермскім міліцыянерам затрымаць трох аўтаўгоншчыкаў. Злачынцы, украўшыя «Волгу», выехалі за горад, але машына раптоўна заглохла. Усе спробы завесці яе не мелі поспеху, хаця паломкі не знайшлі. Прыйшлося злодзеям вяртацца ў горад і шукаць транспарт, каб выцягнуць крадзенае дабро. Узламаўшы гараж і ўгнаўшы «Уазік», яны накіраваліся за горад, аднак, параўняўшыся з «Волгай», «уазік» таксама раптоўна заглох. Ніякія намаганні не маглі скрануць яго з месца. Пакуль збянтэжаныя злодзеі кідаліся ад адной крадзенай машыны да другой, падаспела міліцыя.

(З матэрыялаў перыядычнага друку).

## З ГІСТОРЫІ НАЗВАЎ

# ВІШЧЫН

Вёска Вішчын Рагачоўскага раёна. Мала хто ведае пра яе, хаця па ўзросту яна адна са старэйшых. У XIX стагоддзі вёска знаходзілася ў Кісцянёўскай воласці Рагачоўскага павета, яшчэ раней, у 60-ыя гады XVI стагоддзя — у Рэчыцкім павеце Вялікага княства Літоўскага. А ў старажытнаславянскія часы, дзесьці ў другой палове XII — першай палове XIII стагоддзяў тэрыторыя сучаснага Вішчына размяшчалася на граніцы трох земляў-княстваў: Смаленскага, Полацкага і Чарнігаўскага. Асэнсаванне назвы Вішчын не можа быць поўным, усебаковым і абгрунтаваным без усведамлення гістарычнага «фону», на якім нарадзілася і функцыянавала гэтае гістарычнае імя.

У XIX стагоддзі Вішчын, згодна з даведнікам «Волости и важнейшие селения Европейской России. Выпуск V. Губернии Литовской и Белорусской областей» лічыўся вёскай з 59 дварамі і заезжым домам, насельніцтвам 502 чалавекі. У кнізе «Список населенных мест Могилевской губернии», выдадзенай у 1910 годзе пад рэдакцыяй Г. П. Пажарава, адзначана, што ў вёсцы Вішчын, размешчанай пры вялікай дарозе на Дняпры, налічваецца 103 двары і пражывае 440 чалавек мужчынскага і 418 чалавек жаночага полу.

У адным дакуменце, датаваным 1567 годам, ёсць звесткі пра вішчынскага мелкапаместнага шляхціча Васку Анцуту, які быў заклiканы ў апалчэнне ВКЛ. Як можна думаць, гэты шляхціч у адзначаны час і быў гаспадаром двара, г. зн. вясковага баярскага памесця Вішчын. Цікава, што Васка Анцута ў складзе апалчэння лічыўся коннікам з панцырам, «прилбицей», сагайдакам, шабляй і рагацінай.

У старажытнаўсходнеславянскі час у наваколлях будучага «двара», а потым і вёскі Вішчын, а дакладней, на правым высокім беразе Дняпра, паміж сучаснымі населенымі пунктамі Вішчын і Кісцяні, знаходзілася абарончае збудаванне — замак. Сёння аб былым замку нагадвае гарадзішча, плошчай 0,63 га, якое з боку ракі абмежавана стромкім абрывам, а з боку поля — трыма паралельнымі лініямі валоў і рвоў (агульная паласа абароны мае шырыню каля 30 метраў). Само гарадзішча, дарэчы, было ўзведзена на месцы яшчэ больш старажытных стаянак, якія існавалі ў эпоху мезаліту (сярэднекаменны век, IX—V тысячагоддзі да новай эры) і ранняга неаліту (у межах Беларусі — з канца V тысячагоддзя да новай эры).

Як бачым, прыдняпроўскія вішчынскія мясціны людзі абжывалі шмат тысячагоддзяў назад. Аб гэтым, акрамя археалагічных знаходак, сведчыць і наступны цікавы факт, аб якім паведамляецца ў кнізе «Могилевская старина. Сборник статей «Могилевских губернских ведомостей». Пад рэд. Е. Р. Раманава. Вып. II. 1900—1901 гады. Магілёў, 1901 (цытуем без перакладу): «...В конце 80-х гг. в д. Вищине Кистенёвской волости сильными потоками дождевой воды образовало ров. На дне, на глубине нескольких саженей, обнажился могучий ствол погребенного веками дуба, уже почерневшего от времени. В стволе оказались бортовые отверстия. Для того, чтобы бортное древо состарилось и упало и чтобы на нем образовался слой земли в несколько саженей, требовалось не одно тысячелетие...».

Можно меркаваць, што ў той далёкі час, калі бортнікі карысталіся мёдам з борцяў «закансерваванага» пазней у зямлі дуба, у наваколлях сучаснага Вішчына існаваў векавы лес. Да ўзнікнення назвы *Вішчын* тады было яшчэ далёка.

Яна з'явілася, на мой погляд, пасля ўваходжання прыдняпроўскіх зямель у склад Вялікага княства Літоўскага (прыкладна ў другой палове XIV ці нават у XV стагоддзі). Прычым назва была перанесена з руін парубежнага замка на пасяленне («двор» пэўнага шляхціча), якое ўзнікла непадалёку ад гарадзішча. Аднак час адбіўся нават на назве, бо яна «ўзрадзілася» ў змянёным выглядзе, у сучаснай яе форме — *Вішчын*, якая ўжо не адлюстроўвала першапачатковы сэнс і разуменне імя навакольным насельніцтвам.

Замак на скрыжаванні граніц трох княстваў быў пабудаваны на рубяжы XI—XII стагоддзяў (рэшткі замка даследаваў археолаг Э. М. Загарульскі. Цяжка сказаць, хто ўзвёў абарончае збудаванне — полацкія, чарнігаўскія ці смаленскія князі. Аднак, думаецца, што з канца 20-х гадоў XII стагоддзя ці з трохі больш позняга часу Вішчынскі замак належыў Смаленскаму княству, якое ў княжанне Расціслава Мсціславіча (1127—1159 гады) адасобілася ад астатняй Русі. Пры археалагічных раскопках на вішчынскім гарадзішчы была знойдзена свінцовая пячатка князя Мсціслава Расціславіча Храбрага (памёр у 1180 годзе), які заслужыў высокую пахвалу летапісцаў і, верагодна, быў адным з уладальнікаў замка ў ліку смаленскіх князёў.

**Вішчынскі замак быў разбураны ў XIII ст. Гэты факт дазваляе супастаўляць назву Вішчын з назвай Смаленскага горада Ваішчына.** Знішчэнне абарончых збудаванняў і іх цэнтра — замка — прычынілася да паступовай трансфармацыі назвы *Ваішчына*. Побач з ім у далейшым з'явілася пасяленне, якое ў новы час стала дастаткова буйной вёскай пад гэтай жа назвай — *Вішчын*.

А. РОГАЛЕЎ,
кандыдат філалагічных навук.


**«НАВІНЫ АКАДЭМІІ НАВУК БЕЛАРУСІ»**

Штотыднёвая газета Акадэміі навук Беларусі

Рэдактар Аля Шымановіч

Адрас рэдакцыі: 220072, г. Мінск, вул. Ф. Скарыны, 1, пакоі 309а, 309 б. Тэлефоны: рэдактара — 39-46-12, карэспандэнтаў — 39-54-51
Мінская фабрыка «Чырвоная зорка» МПВА імя Я. Коласа

Падпісана да друку 17.08.94 г.
Зак. 1043.
Тыраж 1000 экз.

Індэкс 64123